## Шаноўныя лідзяне.

Не хлебам авдзіным жывы чалавек. І ў шчасці, і ў гору суправаджае чалавека слова. Слова, як неабходнасць, як жальба, як радасць, як песня. Слова можа быць цяжкім і жорсткім, можа быць добрым і прыгожым.

Нашая Лідчына заўсёды была багатая на людзей, якія валодаюць словам, умеюць і ў вершах і прозе выказаць і свае пачуцці, і праўду жыцця. У Лідзе шмат паэтаў і празаікаў. Не кожны з іх можа выдаць сёння кніжку, таму мы пачынаем выданне Лідскага літаратурна-мастацкага часопіса. Часопіс будзе выходзіць раз на тры месяцы. На яго старонках знойдзецца месца і кампазітарам і мастакам і любому творцу.

Мы назвалі яго **"АД ЛІДСКІХ МУРОЎ"**, каб назва ўсім сваім сэнсам нагадвала кожнаму, дзіцем якой зямлі ён з'яўляецца, на што ён можа абаперціся і перад чым мае абавязак. Лідскім мурам сёлета 675 гадоў. Хай іхняя векавечнасць апусціць свой цень на наш часопіс, каб ён не задыхнуўся ў пыле нягодаў, а з квартала ў квартал нёс вам светлае і прыгожае беларускае слова, лідскае слова.

**Рэдкалегія**


# Ад лідскіх муроў.

***Рэдакцыйная калегія:***
Віктар Бачароў, Уладзімір Васько, Леанід Віннік, Міхась Ёрш, Пётр Макарэвіч, Алесь Стадуб.

***Укладальнік:***
Станіслаў Суднік

**Заснавальнік:**
Лідскае літаратурна-мастацкае аб'яднанне "Рунь"

***Адрас рэдакцыі:***
г.Ліда-2 , п/с 7

***Наклад***
299 асобнікаў
***Друкарня Марціна Кухты.***

**Вокладка Міхася Бурачзўскага**

**Дызайн Арцёма Судніка**

Ад лідскіх муроў
Пачынаем мы крок,
Да лідскіх муроў
Павяртаем мы зрок.

Ад гэтых стаўпоў
І спрадвечаных сцен
На лёсы вякоў
Апускаецца цень.

Байніцы гудуць
Легендарны напеў,
Як важна пачуць,
Улавіць гэты спеў.

*Станіслаў Суднік*



# Ад лідскіх муроў

## Лідскі штоквартальны літаратурна-мастацкі часопіс

## N 1




г. Ліда
1998 г



*Ім ёсць пра што пагаварыць*

Здымак В. Янцэвіча






# Віктар Бачароў

✧ ✧ ✧

**А я занёс бы**
**ў кнігу Гінеса**
**травы расток ...**
**Той, што вясна**
**на крылах вынесла**
**праз пыл дарог.**
**Ці не рэкорд жа**
**для былінкі**
**асфальт прабіць**
**і са свабодаю ў абдымку**
**прастор любіць !**
**Такую сілу**
**нам бы,**
**людзям,**
**каб цераз лёс**
**пранесці ўсё,**
**што з намі будзе,**
**і ўсё, што ёсць...**
**Каб не быць**
**рабом чырвонца**
**на паперці,**
**калі цягнуўся ты**
**да сонца,**
**каб змог дайсці.**

*(пераклад Станіслава Судніка)*







*Леаніду Вінніку*

Надакучыла ! Ногу ў стрэмя ўраз,
Разарваць тумановў смугу,
ды бяда, дзе ты возьмеш час,
Хвілю выкраіць не магу.
Хвілю выкраіць, згадаць даўняе
і пра прышлае патужыць,
і на міг цябе, мая слаўная,
да грудзей сваіх прытуліць.
На хвіліну да хаты матчынай
мне не вырвацца ну ніяк.
Ну ў каго я такі няўважлівы,
ну ў каго я такі басяк.
Ні хвіліну, каб душу вылечыць,
ў Божы храм з павінай зайсці
і адчуць дух святы, вялічавы,
ды ўсё некалі, маць яці !
Надакучыла. Ногу ў стрэмя ўраз,
сам сабе не падам вады ...
А на смерць ці знайду хоць час ?
Не знайду ? Ну такой бяды.
*(пераклад Станіслава Судніка)*

✧ ✧ ✧

Я ціха памру
і сыду ў паднябессе...
Ты ціха паплачаш,
маю ўспомніш песню...
І дзеці паплачуць,
адны без пары,
І ціха падыдуць
з жалобай сябры.







I словы прамовяць
                    і ціха ўсе ўстануць,
I ціха
        хвілінай маўчання
                            памянуць.
А потым адыдуць
                        прыстойна і ціха,
Над до[illegible] з жалобою
                        каркне грачыха...
Пастой
                    я супраць,
Каб так усё ціха,
Жыццё я пражыў
                    і цікава, і ліха !
Не раз плакаў я
                    і не раз я смяяўся,
не раз я і біўся
                    і шмат цалаваўся.
Дабро я пабачыў
                    і бачыў я зло
I шчасце ў жыцці
                    са мной побач ішло.
Шанцавала таму
                    што сяброў меў я шмат
I ў каханні спрадвек
                    быў зухвалы я хват.
Я ўверх падымаўся
                    і падаў з гары,
Усяго нахапаўся
                    за жыцце, сябры.
Пагэтаму "ціха" —
                    не трэба, малю,
а то памінальнай
                    я вам не налью.

*(пераклад Станіслава Судніка)*





Восень біла па акне мне
залатым лістом.
Я з табою пасумую,
ўзяўшы два па сто.
Я з табою пасумую,
вось і ўвесь мой сказ,
на жыццё шукаў такую,
а знайшоў на раз.
Што ж і раз напэўна многа,
шчасця цераз край.
Дождж дубасіць за парогам,
ну, а ў нас тут рай.
Тут збываюцца жаданні
пад капельны гук,
і прысутнічае тайна
паміж ласкай рук.

*(пераклад Станіслава Судніка)*








# Уладзімір Васько

## ЛЯ ПОМНІКА КУПАЛУ

Ты быў і ёсць.
Твой дух вітае тут.
Увогуле паэты не ўміраюць.
Ратуй, Купала,
Наш упаўшы дух!
Што ты параіш сённяшняму краю?
Упаў бо ў разгубленнасць
твой люд,
Не ведае, дзе праўда,
дзе няпраўда.
Хто ў бандытызм пайшоў,
Хто ў блуд —
Адна ўсю нечысць
павязала дратва.
Лістота касяком ляціць да ног...
Я завітаў свядома
ў твой затулак.
Купала, ты — наш беларускі Бог,
Скажы хоць слова мо на паратунак.
Няўжо нам жыць, як прадзеды жылі?
Няўжо твае асілкі падупалі?
Маркотны сон, як гнаў,
зноў прагані,
Каб крумкачы пра смерць
не крумкавалі.







## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, КНЯЗЁЎНА !

Ужо адляцелі буслы...
Пакуль, даўганогія птушкі !
А я свой абвостраны слых
Частую мелодыяй пушчы.
Прадзьмулі яе скразнякі,
На плечы ёй хмары ўпалі.
Бы рыб залатых касякі,
Лістоту разгойдваюць хвалі.
Куды іх наш Нёман нясе ?
Пра што іх апошняя песня ?
І мы, як і лісце, усе
Аднойчы на золку прамерзнем.
Я думак такіх не люблю,
Жыву тым, што дадзена сёння,
Пейзажамі позірк кармлю.
Дзень добры, бярозка - князёўна !

## АДКРЫЦЦЁ

На зігзагах крутога жыцця
Памыліцца можна знянацку
І набіць на ілбе сваім цацку,
Не зрабіўшы яшчэ адкрыцця.

Ды калі бруіць пачуццё
Праваты сваёй неўміручай,
Ты ў гісторыі гэтай падучай,
Мабыць, знойдзеш сваё адкрыццё.

Разбяруцца нашчадкі пасля,
Як ты ехаў, куды пакіроўваў.
Скажуць: “Шлях быў няроўны”...
Можа, Бог цябе гэтак паслаў ?





## НЯДЗЕЛЬНАЙ РАНІЦАЙ

Жыву я побач
Старажытнай крэпасці,
Вітаюся з гісторыяй
Штодня.
Не адчуваю сам сябе
Нікчэмнасцю
Ў яе абдымках,
Апантаны я.

Спяшаюцца на рынак
Людзі раніцай,
І я лучуся
З торбаю да іх.
Прыемна мне
Ў натоўпе іх пабавіцца,
Пацешыць зрок
І напатоліць слых.

Куплю капу яёк,
Кавалак сала,
За хвост укіну
Ў сетку сялядца.
Ды гэтага, прыкіну,
Вельмі мала, —
Пайду вунь да таго
Паэта — прадаўца.

Ён любіць кветкі,
Кветкамі гандлюе
І ўслаўляе ў радках народ.
— Здароў, паэт !
— Здароў !
І прапануе
Букет —
Самой фантазіі ўзлёт.







Я заплачу.
Навошта браць бясплатна ?
Усё ж стараўся дзядзька,
Працаваў.
І ў нас дваіх
На сэрцах стане здатна,
Бы Бог настрой
Па промнях нам
Паслаў.

Пасля пайду ў сквер,
Дзе за касцёлам
Стаіць вялізны
Помнік Скарыне,
І ўскладу букет свой —
Сто вясёлак, —
І зноў натхненне
Хлыне ў сэрца мне.

Тут пасяджу, падумаю,
Памару,
Адчую ход
Гісторыі самой.
Святым падасца
П'едэстала мармур
І постаць Скарыны,
Бы даўніна, святой.









# Іван Гушчынскі

## ЗА СЛОВА ДА ВЯСНЫ

**Ці дня не хапае,
ці толькі хвіліны,
ці адзінага слова
з вуснаў тваіх,
жаўрук каб над полем
крылы раскінуў ?
Я б гэтае слова
пад сонца падкінуў
— і промні яго
па зямлі разняслі б.**

**А шчасце якое,
што гэтую цішу
не вецер, не гром
нечакана ўскалыша,
а простае слова,
адзінае слова,
з якога й пачнецца
прыпеў жаўруковы.**





В.Ш.

Зорка мая !
Табой здзіўлены вечар.
Развітаемся з летам —
адлётным птахам.
Вандравалі мы доўга
да нашай сустрэчы
Недзе між Сонцам
і Млечным шляхам.

Лёс надзяліў нас
гэтым казачным светам,
назаўжды знепакоіў,
падарыў прыгажосць.
Зорка мая !
У вечар позняга лета
Ты на зямлі,
хоць далёка, а ёсць.

І хоць гэта пара
яшчэ летам завецца,
Спас буслоў устрывожыў
дарогай далёкаю.
А ці будуць шчаслівымі
нашы ў выраі сэрцы ?
Так зайздросна адзіныя,
толькі ўсё ж адзінокія.



Вось цяпер цябе разбудзіць ранак,
босы пракрадзецца ён праз шкло.
І рука, што холадам скавана,
апячэцца аб шчакі цяпло.




Нечаканы, як начны мой вершык,
упільнуе, можа, ўзлёт брыва,
ці ўкрадзе чароўную ўсмешку,
каб маёй ніколі не была.

Ранак праз імгненне пастарэе,
згубіць рыфму ў пытанні верш:
ты салодка спіш, бо разумееш,
што ў жыцці найгорай, што найлепш.

## Э С К І З

Намаляваў няясна, невыразна
туман пушысты лесу ўздых - эскіз ...
Вясенні вецер хутка клямкай бразне,
вясна шугне, як з горкі стромкай, ўніз.

Зямля набухла пад падталым снегам,
шукаюць сонца сосны ў вышыні,
а недзе там, за лесам, і за светам
нам бусел лічыць да спаткання дні.

Туманным гэтым ціхім ранкем
і знізу ўверх, і зверху ўніз
гляджу гляджу эскіз чакання
і лесу лёгкі ўздых- эскіз.

## Т Р Ы Я Л Е Т

Скацілася сонца за лесу абрыс ...
І дня таго рэха над рэчкаю чую,
дзе шэпт развітання ў тумане павіс.
Скацілася сонца за лесу абрыс...
Зноў памяць па сцежках знаёмых вандруе,
дзе я развітаўся без суму калісь.
Скацілася сонца за лесу абрыс,
а дзень той сягоння пад сэрцам начуе.







## МАЛЮНАК ДЗЯЦІНСТВА

Мой
старэнькі
забыты дом
з заржавелаю клямкай,
туды глядзіць адным акном,
адкуль да нас з-за ночы беглі ранкі.
І здаецца цяпер зноў,
што, стаміўшыся сонца,
ўцякае ад сноў
у другое аконца.
Зоркі ж, як адмігцяць, у цёмны комін ляцяць.

## Т А М

Там, за лугам, гармонік грае ...
Рэчка, быццам юнацтва парог.
І чаго яшчэ сэрца чакае ?
Для каго яшчэ песня гукае
З летуценных юнацкіх трывог ?

Узысці на забытую кладку,
На сустрэчу з той песняй хутчэй !
Там і месяц свой танец— загадку
З купкай зорак танцуе ўпрысядку,
Толькі час хутчэй рэчкі цячэ ...

А за лугам гармонік іграе
Песню даўніх, шчаслівых трывог.
І чаго яшчэ сэрца чакае ?
Для каго яшчэ песня гукае ?
Кліча, кліча з далёкіх дарог.










# Міхась Ёрш

**НАРОДНАМУ ХОРУ імя Г.ЦІТОВІЧА**

Я ў песнях народнага хору
Быццам чую бруянне крыніцы,
Сумны шэпат знаёмага бору,
Што мне часта на досвітку сніцца.
Пад ваш спеў прыгадаю матулю,
Як мне песні малому спявала.
Вашы песні мне сэрца атуляць,
Мне заўсёды іх будзе замала.
Песні вашы — рамонкі на полі,
Васількі на мяжы сярод жыта.
Песні вашы — жаночая доля,
Перавяслам ільну апавітая.
Дык спявайце, хлапцы і дзяўчаты,
Ўлетку, ўзімку і на прадвесні.
І датуль будзе край наш багаты,
Покуль жыць будзе матчына песня.



Я гляджу на апошнія летнія дні,
На сівыя аблокі ў небе высокім,
Чую подых празрыстай наскрозь цішыні
Разумею, што восень ужо недалёка.

Зноў чаканне і зноў спадзяванне, што лёс
Адвядзе для душы залатую часіну,
І, што тое, чаго гэты год не прынёс,
У наступным ужо, безумоўна, спасцігну.







**З Новым Годам !**

Шаноўныя сябры ! У гэты вечар
Мне шмат чаго хацелася б сказаць:
Са святам вас усіх павіншаваць
І чарка тут не будзе недарэчы.
Год адыходзячы прынёс нам шмат турбот,
Ды што хацець нам ад яго, ён - год свінячы,
Хоць са свінёй не звязвае народ
Свае праблемы, страты і няўдачы.
Я вам жадаю шчасця, дабрыні,
Каб на стале не ведалі нястачы.
Хай у нябыт адыдзе год свіні
І вам ніколі болей не свінячыць.
Год пацука ля веснічак стаіць,
Што прынясе ён і для нас, і для Айчыны ?
Астролагі прарочаць — будзем жыць !
Ды вось хацелася б жыццём не пацучыным.
Хацелася б адчуць сябе людзьмі
А яшчэ лепш — у Свеце "людзьмі звацца",
Бо як ні кінь і што тут ні вазьмі,
А з краю нашага нам некуды дзявацца.
Навек мы з гэтай звязаны зямлёй
І добраю яна ці дрэннай будзе
Ад нас залежыць, бо, калі мы людзі,
Належыць захаваць нам вернасць ёй.
Чаго яшчэ я вам не пажадаў
Ці не адмерыў сёння поўнай меркай ?
Каб пацучыны год свіней вам падкладаў
Паболей... на патэльні і ў талеркі .
Прашу напоўніць чаркі пакрысе
І выпіць за здароўе і надзею,
Што год наступны нам, нарэшце, прынясе
Доўгачаканыя шчаслівыя падзеі.








# Юры Карэйва

**Паломніцтва ў неба**

**На грудзі зямлі крыжы наляглі,**
**на церніве стронцавым цені,**
**сышлі на палі, шукаць началі**
**шляхоў да нябесных скляпенняў.**

**Не мелі б наўды, каб знали куды**
**у грэшным жыцці пахіліцца,**
**ды ўсюды-клады, былыя сляды**
**канцоў, камяніц ды капліцаў.**

**Нікога ўжо там... Разбураны храм,**
**няма каму ўзняць на паўстанне,**
**ніколі ўжо хам не выламе брам**
**у храм да Святога Пісання.**

**Праклёну сыны, нарэшце, яны**
**сваю адшукалі дарогу,**
**дзе вецер пальны над векам труны**
**спявае літаніі да Бога.**







## Радзіма

Зноў сваё праменне золак
пранізаў праз голле квола
і на гронках арабіны
запаліў расы рубіны.

Гэта — ты.
Твая мне ўсмешка
горка ўспыхнула над сцежкай,
навылёт працяўшы болем...
Арабінавая доля.

## Спроба замовы на ўраджай

Паслухай свайго нашчадка,
сівы мой паганскі божа,
ад самага дзён пачатку
на сэрцах людскіх трывожна.

Чакаюць яны агнявіцу
з тваіх непадступных нябёсаў.
Няўжо табе не ўгнявіцца ?
Успыхні ж над нашым лёсам.

Дашлі нам, Пяруне, маланку,
або хоць малую іскрыну,
каб дождж малады ўпаранку
слязіну шчаслівую зрынуў.

Няхай жа яна па руні
рассыплецца золатам росаў,
каб ты зноў па іх, Пяруне,
ступаць мог нагою босай.




## Жыццяскон

Кавалі штучных сонцаў і зораў
накавалі ліхой злыбяды —
і сплываюць па кроплі з разораў
лёсы нашыя ў дол, на клады.

Між разораў тых — жыццяў дажынкі:
жнуць, ды д'яблу здаюць на замес.
Як ніводнае Божай збажынкі
не накінуць, што ж будзе замест ?

А замест нам нічога не будзе,
анічога — душою ажыць,
бо зямля не дарує тым людзям,
што не ўмеюць святым даражыць.

Гляньце ж вы. Ад народзін да крыжа
Шлях ваш — церні ды ў цемры знічы.
Дык, ці хочаце, хто яшчэ выжыў,
заставацца навечна з нічым ?

## Краявід

Там, дзе могілкі ўроскід
леглі ўзгорку на плечы,
цень крыжовы ўскрай вёскі
пад каплічаю ўкленчыў.
Да сцяны яе ніца,
бедны, ён прыпадае,
нібы ў чым павініцца,
але ў чым, не згадае.
Адзінотай, адзінай
ціле нямое маленне...
Вось і ўсё, што Радзіма:
цень крыжа...
На каленях...







**Паэта**

**Раптам скоціцца ў бездань месяц**
**з чорных зорных начных плячэй,**
**і праз хмары на прывідных лесвіцах**
**ноч густая ў ахвярнік сцячэ.**

**Раптам прыдзе твой кат — натхненне**
**ды да горла прыстане: пішы,**
**і не здольны ўжо ўстаць з каленяў,**
**будзеш боль свой здымаць з душы.**

**Будзеш небу чытаць літанне,**
**паратунку ад Бога прасіць,**
**толькі лепей табе не стане,**
**за пакуту - вось гэтак жыць.**

**Толькі лепей не будзе Паэту:**
**гнаны з гэтага свету Паэт,**
**каб праз скон ды праз енк з таго свету**
**адраджаць спарахнелы свет.**

**І ўздымаюцца ў неба галовы**
**тых, што курчацца на крыжах:**
**Бог вяртае ім роднае Слова**
**дух знявечаны ўваскрашаць.**








# Вера Ляцецкая

**ТУРБОТЫ ЗЯМЛІ**

**Вясна ў прыродзе верхаводзіць,**
**Праменні сонца шле ў дазор.**
**Жаўрук свеў срэбны ўжо заводзіць**
**З усходу сонца і да зор.**

**Гром, бы са сталі калясніцу,**
**Па небе вецер пракаціў,**
**Каб не заспалася зямліца,**
**Яе на працу разбудзіў.**

**А працы ў зямелькі многа:**
**Сагрэй зярняткі, прарасці**
**Ды песці, як сынка малога,**
**Пакуль паспее падрасці.**

**А падраслі — і зноў турботы,**
**Каб выспеў ў тэрмін каласок.**
**Ў зямелькі — маці шмат работы,**
Каб уражайным быў гадок.







## ЖУРАЎЛІ

Трывожны, сумны кліч нясецца
Над возерам, у нябеснай вышыні.
Там жураўліны клін імкнецца
На поўдзень, шле свае "кур-лы".

Нялёгкая чакае іх дарога:
Далёкі вырай, смерч, вада.
За апусцелым матчыным парогам
Чакае часта журавоў бяда.

Я чую жураўліны плач — растанне.
Трывогу ў сэрцы не магу суняць.
Прыйду вясною зноўку на спатканне,
Каб пералётных птушак прывітаць.

## ПАРТЫЗАНЫ

Яны даўно пакінулі балоты,
Лясы, зямлянкі, аўтамат,
А я іх бачу ля варожых дзотаў,
Баямі стомленых, лясных салдат.

Ім многа сніцца сноў трывожных,
Смерць любых, родных ім людзей,
Паходы — рэйды па тылах варожых,
Расплата — смерць няпрошаных гасцей.

Гады плывуць, як хвалі, чарадою,
Наперадзе так многа розных спраў...
Я ганаруся зменай маладою,
Хачу, каб край мой самастойным стаў.











# Пятро Макарэвіч

## ЛЮБІМАЯ ЛІДА

Любімая Ліда,
Цудоўная Ліда —
Пявучы прынёманскі наш гарадок.
Няхай над табою
Заўсёды з любоўю
Блакітнага неба цвіце васілёк !
Дачушка Радзімы !
Ласкавае імя
Матулінай песняй да сэрца ляціць.
Ты шчыра і проста
Хлеб— соль дорыш госцю —
Ў люстэрку ўсмешкі душа зіхаціць.
Бярозкі — ракіты
Ўглядаюцца ў пліты,
Дзе б'ецца, як сэрца, твой вечны агонь.
Ў вайну ты, славянка,
Была партызанкай,
Табе да зямлі наш удзячны паклон.
Ляжыць пад Курганам
Агонь ураганны.
Пакрыўдзіць ніколі цябе не дадзім.
Жыві ў пашане
Шчаслівай, каханай,
Радзімка пяшчоты на твары зямным !







## І СЛОВА — СЛАВА БЕЛАРУСА

*Земляку касманаўту Уладзіміру Кавалёнку*

У закутак самы дарагі —
У край глыбінны вёскі Белай
Вязу я водпуск на лугі,
Дзе маладосць, як птушка, пела.

"Дальбог такі, як быў, сынок,
І ўсё па-нашаму гаворыш...
А мой не едзе Васілёк", —
Мне скардзіцца суседка ўголас.

Я суцяшаю, як магу
Усмешкай, жартам, успамінам,
Як мы дурэлі ў мурагу,
Як, падшыванцы, рвалі міны.

Дзяцінства сына нагадаў,
Бы пасадзіў ёй на прыполік.
"Мне ж да бацькоў рукой падаць,
А Васілёк ваш — у Анголе..."

"Ды што пісьмо? Паперкі шмат !
Самога ўлашчыць бы вачыма.
Нібы работы тут няма,
Ля дому ў бацькавай хаціне".

І нахіліўшыся на кій,
Лагодна кажа знізу ўгору:
"Пятрок, сто год ты гарадскі,
А проста, як і мы, гаворыш..."

І сапраўды (ад пахвальбы
Аж сэрца ёкнула балюча):
Не родным словам свае лбы
Мы без патрэбы часта мучым.





Ці з яблыкам, ці з агурком
Дзень пагандлюем на базары,
А вернемся ў вясковы дом —
“Вучона”, “рускай” мовай жарым.

Акцэнт — карова па ільду —
Слых рэжа ў Гродні і за Глускам.
І гэту коўзкую ходу
Сур’ёзна лічым мовай... рускай?!

Ды сам вялікі Леў Талстой
Да смерці ёй не авалодаў !
А мы ў прастаце сваёй
Валодаем... тыдзень без году...

Па- роднаму скажы, спытай —
Казеляць вочы, як на турка,
Ці скаляць зубы ўсе, бадай,
Адукаваныя прыдуркі.

З пяшчотай маці тут зямля
Калыскі іхнія гайдала...
Размашысты свой верш і я
Не роднай мовай кайданіў.

Культуры беларускай сцяг
Да зор узняў Купала смела.
І ажывае Млечны шлях
Таксама словам з вёскі Белай !

## СУМЛЕННАГА СЫНА ЗЯМЛІ...

Васілю БЫКАВУ

Сумленнага сына зямлі
Варожасць — ізноў! — абступіла...
Балюча і крыўдна, калі
Твой розум шліфуюць тупыя.
І вучыць гультай працаваць
І лезе наперад пазаддзе,






І ёсць мастакі нацкаваць
З куп'я вертыкальнай пасады:
Ты - ж супраць казённай лухты,
Ў касмічных і думках, і марах,
Як сонечны дыск залаты,
Ляціш праз іх штучныя хмары.

## СПАГАДА ЖЫВОМУ — ЖЫВЕ

У раме аконнай аблокі
Па майскім блакіце плывуць.
Спакойна і мудра здалёку
Да сэрца ўспаміны нясуць.

Вось я аблачынкай дзяцінства
Над лугам, над полем ляту,
Наскрозь прамяніста расхрыстан,
Да ўпаду гуляю ў лапту.

На рукі мае па сасонцы
Сястрычка вавёрка імкне.
Здаецца, разліўся я сонцам,
А сонца ўлілося ў мяне.

Казяўцы з аслабленым цельцам
Заўзята майструю жытло
З лучынак, травінак і шкельцаў:
Хачу, каб жывое жыло !

Але за хмурынкамі — хмары
Нахлынулі цёмных масцей
І градам па хатцы, па марах
Дубасяць мацней і мацней.

Шчырую насуперак грому
І бліску маланкаў кругом...
Не выбіў спагады жывому
І сённяшні гром з перуном.










# Марына Масла

## ПЕРАД КУПАЛЛЕМ

Зараз плача сама зямля,
Слёзы буйныя льюць нябёсы...
І прашу табе шчасця я,
Беларусь!
О, за што ты так моцна
пакрыўджана лёсам ?!

Папараць - кветку шукаці
Будзеш сягоння ўначы,
Мілая, добрая Маці,
Чым табе дапамагчы?
Кожным жыцця імгненнем
Шчасце б памножыць нам,
Шчырым душы імкненнем
Дапамагчы сябрам.

Сэрца маё ў палоне
Самых прыгожых дум.
З нізкім табе паклонам
Я па жыцці іду !
Я цябе называю кветкай,
І дару я табе любоў !
І хачу стаць жывою сведкай
Тваіх лепшых, мой край, часоў !









Маланкай любові да важкага слова
Нас скрыжавала часіна.
Сэрцы рыфмуюць. І родная мова
Будзе жыць вечна ! Павінна !

**МАІМ ВЫХАВАНЦАМ**

Добрыя, дапытлівыя вочкі
Так цікаўна, уважліва глядзяць.
Мілыя дачушкі, слаўныя сыночкі,
Хочацца вас лашчыць, хочацца абняць.

Колькі трэба цеплыні, увагі,
Каб у вас нам заслужыць давер !?
Колькі трэба шчырасці, павагі,
Каб адчулі клопат наш цяпер !

Менавіта сёння, а не заўтра
Вы павінны шмат што зразумець,
Таямніцы шчасця пазнаваць упарта,
І не сорам будзе свету ў твар глядзець!



Мой слаўны галубочак,
Ты падрастай хутчэй,
Свайго жыцця клубочак
Раскручвай весялей.

Няхай жа моцнай ніткай
Прашыты будзе шлях,
Няхай удасца выткаць
Шчаслівых мараў гмах.

Ляці, ляці, крылаты !
Аблокі абдымай,
Бо ты душой багаты,
Як Беларускі край !





✧ ✧ ✧

**Моцным будзь, я цябе заклінаю**
**Моцнай быць трэба мне, я кахаю.**

**Для нашага шчасця**
**зычу доўгай дарогі**
**О, вясна, у цябе я прашу**
**дапамогі**

**Захавай для мяне позірк**
**мілых вачэй**
**Прэч гані адзіноту**
**бяссонных начэй.**

✧ ✧ ✧

**Папараць - кветку шукала,**
**Куст палыновы знайшла.**
**Зведала гора не мала,**
**Ды вось жа не ўпала, дайшла.**

**А сёння мне пах палыновы**
**Зноўку хвалюе душу,**
**І зноўку я горкія словы**
**Табе пра каханне пішу.**

✧ ✧ ✧

**Крадзенае шчасце,**
**Крадзены пагляд,**
**Крадзеная радасць**
**Крадзеных парад.**

**А хто ж гэты злодзей?**
**Дзе яго шукаць ?**
**Ён каму нашкодзіў ?**
**Што яму сказаць ?**









**Я пішу табе зноўку і зноўку**
**Не пішу, а з табой размаўляю**
**Для цябе, як апалая зорка**
**Маё ціхае слова "кахаю".**

**Не бывае разлук і растанняў**
**Я прашу, не пярэчце, вы мне**
**Бо жыццё яно ўсё са спатканняў**
**І нікога яно не міне.**

**Я бягу к табе зноўку і зноўку**
**Я бягу... хоць сяджу, хоць стаю,**
**Як пагасне апалая зорка,**
**Ты пачуеш малітву маю.**

**ТРЫЗНЕННЕ**

**Заблудзілася я між аблокамі,**
**Я павісла пад імі высокімі**

**Гляну ўніз — там адкрытая пашча**
**Злой хлусні.. Не магу я ўпасці.**

**Вось, як некалі дам я ёй рады,**
**Хоць слязінкай на зямлю, а ўпаду**

**І жыццё маё зноўку пачнецца**
**Моцным парасткам з глебы праб'ецца.**

**Нехта скажа: пустыя трызненні,**
**А я ўпаду... і не на калені,**

**Я грэшнай на зямлю ўпаду,**
**Я з зямелькі святою ўзыду.**








# Міхась Мельнік

**ВЕРА**

**Жыву з адкрытаю душою,**
**нібы наіўнае дзіця...**
**Не ў правілах майго жыцця**
**адасабляць сябе мяжою**
**ад клопатаў сяброў далёкіх,**
**няўдач суседа за сцяною,**
**ад лесу, дрэў і гор высокіх,**
**ад слоў, прыпудраных маной...**
**З трывогаю жыву на свеце,**
**бо ў ім суіснуюць даўно**
**падман, і прагнасць, і**
**бясчэсце,**
**што нас дурманіць, як**
**віно...**
**Пытаеш: "Гэтак доўга будзе?"**
**Ты кажаш: "Свет не**
**павернеш..."**
**Ды не! Мы ўсё ж такія людзі,**
**што нас ад веры не адвернеш.**







## ПРОСЬБА

Цішыня пяшчотнаю пушынкай
Ўпала з трыдзевятай вышыні...
Толькі скача рыссю безупынку
Нехта на апуджаным кані.
Пачакай жа, вершнік заспяшалы,
Хуткі бег на момант супыні —
І пачуеш, як за перавалам
Нерушнае просяць цішыні.

## Споведзь

Я свае неспакойныя ночы
Перадумаю,
        перабяру,
            перамераю,
У твае васільковыя вочы
Загляну з захапленнем
                        і вераю.
Я знайду там агеньчык ласкавы —
Спадарожнік надзей і кахання,
Дзе натхнення жывога яскравасць
І цяпло маіх доўгіх чаканняў...
Прычашчуся тваёй светлай
                        шчырасцю,
Як ствол дрэва
                настоем жывіцы,
Каб кахацца нам
                не па міласці,
Каб душой назаўжды парадніцца.





## ВОЧЫ ЧАЛАВЕКА

Яму было пятнаццаць год.
Ён быў першы вучань на ўроках
беларускай мовы.
Ён бег з пісталетам
на ворага.
Ён убачыў вочы чалавека
Ён павінен быў страляць
у гэтыя вочы.
Захістаўся.
Ляжыць на бруку.
Не навучылі яго
на ўроках беларускай мовы
страляць у вочы чалавека.

## ПРАТЭСТ

Рукі яго
будавалі дом,
у якім гадаваліся дзеці;
рукі яго
даглядалі поле,
што хлебам надзённым карміла;
рукі яго
ворага білі
рукі яго
працу любілі...
Гэтыя рукі
вайна адабрала.
Новага дома не стала,
дрэва не вырасла,
поле сумуе...
Несціхана рыпіць пратэз —
вайне пратэст.





## ТЫ ПРЫЙДЗІ !

Я чакаю
я веру — ты прыйдзеш здаля,
хоць вясна затапіла шляхі
                    на палях,
за бурлівай ракой,
                    ля высокай гары,
лес у тысячы свечак
                    гарыць.
Ні крыла,
Ні весла...
Усё супраць таго,
          да мяне каб прыйшла.
Праз нягоды дарогу
                    праклясці мне
                              чым ?
Можа, злолею сэрцам сваім
                         памагчы?
Пройдзеш ты праз бяздонне,
я стану мастом,
калі ты-праз раку,
я зраблюся плытом,
праз агонь пранясу,
хоць згару сам датла,
а праз горы —
дык крылы пазычу
ў птаха — арла.
Ты прыйдзі !
У мяне — ні весла, ні крыла.








# Леапольд Тырскі

**БАЦЬКАМ**

**Нічога я не зблытаў,**
**нікога не забыў,**
**Выцягваю з нябыту**
**сваё, што пражыў.**

**Вясёлкай граюць кросны:**
**матуля цуды тчэ!**
**І бацька ранкам росным**
**лужок касой пячэ.**

**Курыць дымок над хатай,**
**мох шэры лёг на дах...**
**Шчыруюць мама з татам:**
**Заўсёды на нагах.**








**Прыйдзі надвячоркам**
**Да першае зоркі.**
**Прыйдзі ранкім ранкам**
**На самым світанку.**

**Пакуль я чакаю —**
**Ва мне не змаўкае**
**Кахання пяшчота**
**Да кожнай істоты.**



**Мае вандроўкі і мой пошук**
**Распачаліся з той фурманкі,**
**Калі залазіў я ў паўкошык**
**Яшчэ далёка да світанку.**

**Я калыхаўся разам з бацькам,**
**Я жмурыў вочы, не драмаў.**
**Па белы хлеб я і па цацку**
**Ў мястэчка ехаў не дарма.**

**З тае пары мяне куляла,**
**выкідвала не раз з сядла.**
**І, як бы сцежка ні пятляла,**
**Вяла да роднага сяла.**








# Лілея Сазанавец

## ПЯЛЁСТКІ ЧЫРВОНАГА МАКУ

*Навэла*

...ЗАГС у нашым горадзе стаіць у вельмі маляўнічым месцы: пасярод старога парку. Архітэктар, калі працаваў над будынкам, зразумеў і адчуў гэтую прыгожасць, таму ягоны будынак адразу зліўся з паркам, нібыта не быў пабудаваны толькі дзесяць гадоў таму, а стаяў тут стагоддзямі.

Я люблю ў вольную гадзіну прайсціся па сцежках старога парку, асабліва восенню, калі жоўтая і чырвоная ліства так таямніча шаргаціць пад нагамі, быццам хоча толькі табе паведаміць нешта вельмі важнае і прыгожае.

Гуляць мне даводзіцца толькі ў выхадныя дні, таму амаль што кожную суботу я з'яўляюся нявольнай сведкай чыйгосьці вяселля. Я даўно ўжо прызвычаілася да гэтага. Не замінала маладым, яны не заміналі мне. Не ведаю, чаму звярнула ўвагу на гэтую пару. На першы погляд, звычайны малады і звычайная маладая. Толькі вочы ў яе падаліся мне трохі больш самотнымі, чым у іншых. Напэўна, гэтыя вочы прымусілі мяне згадаць іншае вяселле. Не, не маё, хоць у мяне ўжо, дзякаваць Богу, абодва сыночкі ў школку бегаюць. Успомнілася мне вяселле, дзе я была сведкаю.



Адбывалася гэта ў сярэдзіне васьмідзесятых. Цёплая восеньская раніца. Інстытуцкі двор нагадвае растрывожаны вулей. Студэнты збіраюцца ехаць на бульбу. Шумней за ўсё, вядома, там, дзе знаходзяцца першакурснікі. Ім жа трэба і пазнаёміцца адзін з адным, і інстытут ім яшчэ не вядомы, і за вясёласцю хочацца схаваць тугу па родным







доме, бо першы раз у жыцці яны яго пакінулі.

Мы, правінцыялы, ужо перазнаёміліся і трымаліся купкай. З'едліва разглядвалі смялейшых і, як нам здавалася, прыгажэйшых "гарадскіх". Кідалі ў іх бок па-вясковаму трапныя і не вельмі добразычлівыя параўнанні, хаваючы сваю асабістую сарамяжлівасць і ў душы зайздросцячы іхняй вясёласці і раскаванасці. Ужо ў тую першую вераснёўскую раніцу я звярнула ўвагу на адну са сваіх будучых аднакурсніц, якая стаяла ў купцы "гарадскіх". Была яна маленькая, жвавая, увесь час рухалася, нібы не магла стрымаць у сабе нейкага ўнутранага рухавічка. Адрознівалася яна не толькі ад нас, "вясковых", але і ад сваіх, бо была апранута зусім не так , як іншыя. Мы, нацягнуўшыя на сябе ўсё самае горшае, проста губляліся побач з яе шыкоўнай жоўтай кароценькай куртачкай і белымі замежнымі красоўкамі. "Фіфа" — падумалася кожнаму з нас. Мы памыляліся. Хутчэй за ўсё, Тоня (так звалі дзяўчыну), апранула тое, што першае трапіла ёй пад руку. Ужо ў першыя ж дні ў калгасе яе шыкоўныя красоўкі амаль што нічым не адрозніваліся ад нашых разношаных шэрых кедаў. Не яна жыла дзеля адзення, а яно дзеля яе.

Гоман у двары пачаў паступова сціхаць, бо на прыступкі павыходзілі прадстаўнікі інстытуцкай адміністрацыі. Адзін з іх падышоў бліжэй да мікрафона і пачаў выкрыкваць нумары групаў, калгас, куды патрэбна ехаць, і аўтобус, які нас туды павязе. Пачуўшы, у які аўтобус нам патрэбна сесці, мы з дзікімі воклічамі кінуліся на пошукі таго аўтобуса і не пачулі, што паедзем у наш калгас не адныя. У гэтую ж вёску паехала яшчэ адна група першакурснікаў. Пра гэта мы даведаліся толькі на месцы прызначэння і вельмі ўзрадаваліся, бо побач з нашай выключна дзявочай групай нарыхтоўваць для землякоў другі хлеб павінна была група выключна мужчынская.

Але, пакуль мы ехалі, мы гэтага не ведалі. Спявалі, весяліліся, адным словам, радаваліся жыццю, свабодзе, што магчыма толькі ў найшчаслівейшую для чалавека пару: пару юнацтва. І тут настрой трымала нашая Тоня. У нас не ўзнікала сумнення, што лідарам нашай групы на ўсе пяць гадоў наперад будзе менавіта яна.



І вось нарэшце пасля паўтарагадзіннай язды (большасцю па калдобінах і ямінах) мы паўсталі перад светлымі вачыма старшыні калгаса. Убачыўшы наш "жаночы" батальён, ён неяк адразу панік, бо, пэўна, думаў, што бульбы мы яму наўрад ці шмат накапаем. Але праз нейкай паўгадзіны ў кантору заваліла "мужчынская" група. Старшыню, як падмянілі: усхапіўся, кінуўся прымаць, як найлепшых дарагіх гасцей. З кожным студэнтам за руку павітаўся, а іхняга кіраўніка гатовы быў на руках насіць, абы той раптам не вырашыў завезці сваіх "арлоў" у іншы калгас.

Пасялілі нас усіх разам у калгасным двухпавярховым клубе




Хлопцы размясціліся на другім паверсе, а мы на першым. Чытачу, я думаю, будзе няцяжка зразумець, што ноччу мы амаль што не спалі, бо, калі заснеш, то абавязкова прачнешся альбо са звязанымі марскімі вузламі нагамі, альбо тварам, перапэцканым у тваю ж губную памаду.

Бульбу, праўда, капалі мы спраўна, чым вельмі радавалі шырокае старшынёўскае сэрца. Тоня адразу ж перакрэсліла ўсе нашыя меркаванні аб тым, што "фіфы" могуць толькі красавацца, працаваць яны не ўмеюць. І жартавала, і бульбу капала яна лепш за ўсіх. Я ёю захаплялася

Але потым здарылася так, што маё захапленне Тоняй пачало неяк паступова згасаць. У "мужчынскай " групе быў студэнт Сяргей, вясковы хлопец, грохі сарамяжлівы і не вельмі дасціпны. І вось да гэтага Сяргея прычапілася Тоня. Даймала яго рознымі, часта даволі недарэчнымі жартачкамі.Сяргей цярпеў, хоць было бачна, што ўсё гэта яму ўжо абрыдла, і стрымліваецца ён толькі дзякуючы саёй выхаванасці. Але кожнаму цярпенню калі-небудзь прыходзіць канец.

Прыселі неяк мы перадыхнуць насярод поля. Замарыліся ў той дзень гэтак, што нават нікому не хацелася жартаваць ды кпіць адзін з аднаго, як гэта было звычайна. Ніяк не магла ўтаймавацца толькі Тоня. Спачатку ўсё ішло, як заўсёды: яна здзекавалася, Сяргей цярпеў. А потым Тоня нечакана для ўсіх, і ў першую чаргу для самой сябе, сказала:

— Вось ты, Сяргей, такі правільны, заўсёды робіш толькі тое, што патрэбна, а на які-небудзь незвычайны ўчынак ты, мне здаецца, зусім не здатны.

Мы ўсе насцярожыліся. Тоня гэта сказала не проста так. Трэба чакаць працягу. Сяргей, якому ўжо даўно надакучылі прыставанні Тоні, але які мужна дагэтуль іх цярпеў, на гэты раз ажно збялеў ад крыўды.

— На які гэта ўчынак я не здатны? — засіплым ад хвалявання голасам спытаў ён.

— Ну, напрыклад, ты не можаш вось зараз пайсці са мною ў сельсавет вось гэтай вёскі і распісацца, — нявінным галасочкам папедаміла Тоня.

Усе спачатку знямелі ад нечаканасці, а потым накінуліся на Тоню: яна, што, здурнела, калі жартуе на такую тэму. Усім вельмі хацелася як-небудзь згладзіць гэтую недарэчнасць, але Сяргей ўстаў абтрос са сваіх старых джынсаў наліплыя сухія травінкі, падыйшоў да Тоні, працягнуў ёй руку і сказаў толькі адно слова:

— Пайшлі !

Адчувалася, што яна зусім не чакала менавіта такой рэакцыі з боку Сяргея. Пагардліва адвярнула ў бок галаву.

— Ну цябе ! Прычапіўся !

Сяргей паўтарыў:

— Пайшлі ?

Ніхто з нас, у тым ліку і Тоня, не змог не паслухацца. Усе моўчкі







падняліся і гэтак жа моўчкі рушылі ў бок вёскі.



Старшыня сельсавета, як заўсёды, нападпітку, спачатку гучна рассмяяўся проста ў твар Сяргею, які папрасіў зарэгістраваць ягоны шлюб з Тоняю. Потым старшыня пачаў лаяцца вельмі брыдкімі словамі, самымі прыстойнымі з якіх былі такія: "Панапрыязджала рознай гарадской брыдоты, не ведаюць, што ім яшчэ вытварыць. Нацягаліся б гною з хлява, не да вычварэнстваў было б". Сяргей моўчкі выслухаў старшыню, счакаў, калі той заморыцца і нерастане лаяцца. Як толькі той змоўк ён зноў паўтарыў сваю просьбу. Старшыня раскрыў рот, каб абліць нас, гарадскую моладзь, яшчэ адной порцыяй гразі, але ў гэты момант выпадкова глянуў у твар Сяргею. Што ён там убачыў, для ўсіх нас засталося сакрэтам, бо ўсе мы стаялі ззаду. Але старшыня павярнуўся, расчыніў дзверы ў сельсавет.

— Заходзьце, — прабурчаў ён.

У пакоі ён выняў з шафы тоўстую кнігу і пачаў яе гартаць.

— Хто будзе сведкамі ? — запытаў старшыня, не падымаючы вачэй.

Сяргей ткнуў пальцам у мой бок і ў бок Сашы Аляхновіча.

— Нясіце пашпарты.

Праз хвілін дзесяць усё было скончана. Тоня за ўвесь гэты час не прамовіла ані слова. Потым, ноччу, калі ўсе паляглися спаць, я чула, як яна яшчэ доўга ўсхліпвала, прыкрыўшы твар падушкай. Але ў той час мне не было яе шкада.



Праз тыдзень пасля гэтага мы вярнуліся ў інстытут. Пачалося звычайнае студэнцкае жыццё. Яшчэ там, у вёсцы, мы дамовіліся, што нікому не станем расказваць пра гэты выпадак. Усе былі ўпэўнены, што месяцаў праз пару Тоня з Сяргеям развядуцца, і ўсё стане на свае месцы.

Тоня вельмі змянілася. З першай у групе весялухі яна ператварылася ў вельмі сціплую, ціхую дзяўчыну. Мне здавалася, што знак вінаватасці не сыходзіць з яе твару. Паступова я вельмі пасябравала з ёю і нават даравала той недарэчны выпадак.

Сяргей жа быў такім, як заўсёды. Да Тоні адносіўся гэтак жа, як і да іншых без залішняй ўвагі, але і без пагарды. Ніхто, акрамя нас, не мог здагадвацца нават, што яны — муж і жонка.

Першы курс праляцеў так хутка, што мы нават не паспелі гэтага заўважыць. Прыйшоў чэрвень з яго бяссоннымі начамі, бо, як заўсёды, мы апынуліся непадрыхтаванымі ні да залікаў, ні да надыходзячых экзаменаў. Ліхаманкава,усе ночы запар, намагаліся прыдбаць тыя веды, на якія не звярталі ўвагі ўвесь семестр.

Тоня шчыравала над падручнікамі агульнай хіміі — праз два дні экзамен, калі ў дзверы пазванілі. Яна падхапілася з канапы, падыйшла да дзвярэй, увесь час гадаючы, хто б гэта мог быць ? Бацькі на ўсе выхадныя паехалі на лецішча. У дзвярах стаяў Сяргей з трыма чырвонамі півонямі, у руках. Тоня ажно спалохалася, убачыўшы яго. Яна, калі па

праўдзе, забылася нават пра тое, што калісьці выйшла замуж.

— Праходзь,- запрасіла Тоня хлопца..

Той прайшоў у кватэру, аддаў Тоні кветкі і палез у кішэню яшчэ па нешта. Выняў адтуль маленькую белую паперчыну.

— Мне позва прыйшла,- ціха прамовіў ён,- нам патрэбна развесціся, бо мала ці што можа здарыцца за два гады.

Тоня не адразу ўцяміла, пра якую позву ён гаворыць. У войска забіраюць ! Чамусьці рэзка кальнула сэрца. Яна запрасіла Сяргея ў свой пакой.

— Пасядзі трошкі. Я зараз гарбату прыгатую.

Звычайна, калі чалавек прыходзіць у чужую кватэру, і яго пакідаюць на нейкі час, аднаго, першае, што ён стане рабіць — гэта разглядваць кнігі альбо сямейны альбом. Сяргей не стаў выключэннем. Ён убачыў на кніжнай паліцы альбом, узяў яго, сеў на канапу. Гэта быў Тонін альбом. У ім меліся Тоніныя фотаздымкі ў самым розным узросце: ад месячнага галыша да сённяшніх дзён.

Увайшла Тоня з падносам, у пакоі прыемна запахла добрай гарбатай. Тоня паставіла паднос на столік, а сама прысела побач з Сяргеем, пачала тлумачыць, дзе і калі яна была сфатаграфавана.

Яны неяк не заўважылі, як альбом зпоўз з Сяргеевых каленяў, карткі рассыпаліся па дыване. Сяргей пагледзеў у твар Тоні, убачыў, што чамусьці па яе шчацэ пакацілася буйная празрыстая сляза. Ён не мог не бачыць гэтую слязу і асцярожна выцер сваім вялікім пальцам. Тое, што адбылося потым, яны не маглі растлумачыць нават самі сабе Карацей, Тоня з Сяргеем нарэшце сталі сапраўднымі мужам і жонкай. Як гэта адбылося, не патрэбна нікому тлумачыць. Маладосць і каханне самі заўсёды знойдуць правільнае рашэнне.



Назаўтра раніцою яны прачнуліся рана. Чамусьці зусім не спалася. Сяргей аказаўся надзвычай добрым кухарам, і з тых нешматлікіх прадуктаў, якія Тоня знайшла ў лядоўні, ён зрабіў адмысловы абед. Тоня.ўся свяцілася ад нейкага ўнутранага хараства, якое бывае толькі ў закаханых жанчын. Яны амаль што не размаўлялі, толькі глядзелі адзін аднаму ў вочы, у якіх выразна чыталася шкадоба аб страчаным часе. Яны ж маглі ўжо амаль што год - кахаць, але не рабілі гэтага!

І зноў званок у дзверы прагучаў нечакана і вельмі пранізліва. Тоня кінулася ў вітальню, Сяргей рушыў за ёю. У дзярах стаялі бацькі Тоні. Сяргей зніякавеў - у Тоніным бацьку ён пазнаў выкладчыка па тэарэтычнай механіцы, якую толькі пазаўчора здаў. Тоня, аднак, не разгубілася. Схапіла Сяргея за руку і адным духам выпаліла:

— А гэта мой муж, Сяргей !

Маці разгублена пазірала то на дачку, то на "новаспечанага" зяця, а бацька , наадварот, нават узрадаваўся чамусьці.





спадзявацца, што і зяцем будзеш не горшым, - пажартаваў ён, галоўным чынам, дзеля таго, каб вывесці жонку са стану Гогалеўскай "нямой сцэны".

— Давай, маці, рыхтуй сяточную вячэру. У нас і шампанскае недзе было.

— А вячэру мы ўжо прыгатавалі, - сказаў Сяргей, які таксама адчуў, што трэба, нарэшце, выходзіць са стану тэлеграфнага слупа.



Сяргей у студэнцкі інтэрнат больш не вярнуўся. Забеглі неяк толькі разам з Тоняю ды забралі небагаты ягоны скарб. Дарэчы, з таго дня яны, наогул, стараліся не пакідаць адзін аднаго ні на хвіліну. Тыя некалькі гадзін, на якія ім прыйшлося развітацца, бо экзамены былі ў адзін дзень, але ў розных аўдыторыях, - падаліся ім нясцерпнай вечнасцю.

Нарэшце апошні экзамен быў ззаду. Шчаслівыя, выехалі яны адпачыць на Менскае мора. Купаліся, загаралі, не вярталіся нават у Менск начаваць. Ставілі там жа, на беразе, палатку. Побач была процьма народу, дні стаялі гарачыя, але яны нікога не заўважалі. На свеце былі толькі яны, каханне ды мора.

Але ўсяму прыходзіць канец. Два незабыўныя тыдні праляцелі як адно імгненне. Назаўтра Сяргея астрыжанага і ад гэтага на выгляд зусім хлапчука, Тоня з бацькамі правяла на цягнік. Тоніна маці чамусьці не магла стрымаць слёз. Сама не ведала, чаму так цяжка было на душы. Ці то бравыя маршы не давалі спакою, ці то маленькая стрыжаная галава на тонкай хлапечай шыі, якая выглядала так безабаронна.

Цягнік рушыў і павёз гэтых хлопчыкаў у невядомасць.

Паўгода Тоня атрымлівала амаль штодня лісты ад каханага. Пісаў што служыць у Самаркандзе, прыслаў нават картку, на якой быў сфатаграфаваны ў смешным капялюшы. Такія капялюшы выдаваліся тым, хто служыў у Сярэдняй Азіі. І ў кожным лісце быў укладзены адзін пялёстак чырвонага маку.

А потым прыйшоў ліст, напісаны чужою рукой. З канверта вывалілася белая паперчына. "Паважаная Антаніна Міхайлаўна! Камандаванне №-скай часткі з горыччу паведамляе Вам, што Ваш муж Астапчык Сяргей Іванавіч загінуў, выконваючы свой інтэрнацыянальны доўг у Афганістане..."



Тоня замуж больш не выйшла. Узяла з "дому немаўляці" адказнога хлопчыка і назвала яго Сяргеем. Зараз яму ўжо дзесяць год. Гэта можна палічыць за цуд, але мне ён вельмі нагадвае таго Сяргея.








# Смарагд Сліўко

**ЖУРБА**

Я без цябе журбую,
а ўсё-такі пяю:
не хачу любую,
а хачу сваю.

Пісьмы не суцешаць,
болю не сатруць.
І паслаў да лешых,
ўсё-раўно салгуць.

Як раскажам, схлусім,
што ўкахаўся я
ў адзінокі кусцік
побач ручая.

Пратаптаў сцяжынку
папярок і ўздоўж,
толькі гладзіў спінку,
а нічога больш.

І стаіць прыбраны
поруч ручаю,
Я гляджу ўкаханы,
а хачу сваю.

*(пераклад Станіслава Судніка)*







## ЗВІНЯЦЬ ЗВАНЫ

Ідуць у дол сябры,
Ідуць паадзіночцы,
Адзін я да пары
Яшчэ не ў той сарочцы.

Звіняць, звіняць званы
І то адно ў нядзелю,
Каму пяюць яны
І дзе маё вяселле.

Цалу: очы крыж
Над нов. ягілай.
Ты ўжо нав. спіш,
А мне шчэ трэ ы.

І боль у мне ракой
Ў душы крутым замесаь.
З Надзеяй і Журбой
А Вершы - дробналессе.

Хоць цяжка паміраць,
А жыць цяжэй жывому.
І дзе Айчыну ўзяць,
Калі не маеш дому.

Нясу я свой паклон
Паўз змроку берагі
І з болем бачу сон
Пра тых, хто дарагі.

*(вольны пераклад Станіслава Судніка)*








# Алесъ Стадуб

## НА ФІНІШЫ

На фінішы жыццёвае шашы,
Хоць і ў нашчадкаў спелыя галовы,
Бабуля мерае на свой аршын
Учынкі нашы, справы,злосць і словы.
Яе, нібы святыню, бараню
Ад скразнякоў, ад холаду, ад груку.
Яна, як донарскую кроў, унукам
Перадае і сёння дабрыню.
Даверліва ў думках памаўчаць
Прысяду ціха ля яе — спрадвечнай —
Бо пад каго ж сябе падчалавечу
Ў сярдзіты і крыху шалёны час.



Ты мне пра гонар і пачуцці,
Ты мне пра памяць і пра доўг.
А ведаеш, чым я лячуся
Ад безнастрою і знямог ?

Быць на цябе падобным прагну.
Хто большы — здолей адгадаць :
Ці ты, што вартая павагі,
Ці я, што ўмею паважаць.







## ПАЛАВІНКА

Ты мой погляд не лаві,
Ціхая і смелая,
Мы з табой — з дзьвух палавін —
Сёння шчасце цэлае.

Хай канцэрцяць салаўі,
Аж пакуль натоляцца.
Ты мой погляд не лаві,
Сам ён, погляд, ловіцца.

Млявы вецер збіўся з ног,
Не кране травінкі.
Заўтра разам будзем зноў —
Мы дзве палавінкі.

## БІЛЕТ

Білет стары ў маім блакноце
І, нібы компас, адрас твой.
Я помню неба ў пазалоце,
Маіх задум тугі сувой.

Ды голас твой і твае вочы
Даўно не радуюць мяне.
А той білет цяпер, як воўчы.
Святло тваё — не мне ў вакне.



Цябе слухаць я рады
Пра будзённасць і вечнасць.
Твая скруха і радасць
Мяне раніць і лечыць.

Неспазнанасць хвалюе
Слоў, і сноў, і кахання.
Я люблю тваё слухаць
Залатое маўчанне.





**ЧЫЙМУ ПАРАДУЮСЯ СЛОЎКУ**

Памяці Жэні Янішчыц, паэтэсы.

Жыццё, жыццё,як цукру жменька,
Як гарката нязбыўных мэт.
Дарма наважылася, Жэнька,
Зляцець у неспазнаны свет.

Чыйму парадуюся слоўку
І кіну пахвальбы пятак.
Ні на Вялікдзень, ні ў Пятроўку
Адгуль ніхто нас не вітаў.

Не падсякла адчай адчаем.
Развагі ў яго няма.
Калісці й я туды прычалю
Пад млосны і пад гучны марш.

Нагбом піла натхнення келіх.
Адолела, напэўна, чвэрць.
Істоту мы тваю адпелі,
А душу ў вершах — не адпець.

**Р А Н І Ц А**

Раніца, млявая раніца,
Маці чарговага дня.
З грукатам недзе спяшаецца
Скрозь цішыню паражняк.
Раніца. Рэчка туманіцца,
Неба блакітам экраніцца,
Зяць у сталіцу збіраецца,
Жонка з бабуляю раіцца,
Смага даймае п'яніцу,
Пхнецца на пашу гурт...

Хай сабе рэчка туманіцца,
Хай сабе неба экраніцца,
Хай сабе жонка параіцца,
Хай сабе мучыцца п'яніца —
З раніцай сёння ў нагу
Ў лес па грыбы пабягу.







## НА НАРАЧЫ

Светлай памяці Максіма Танка,
народнага паэта Беларусі.

На Нарачы цёплыя зоры.
На Нарачы сцежкі
вузкія.
Тут вас непрыкметна пакорaць,
Чаруючы па - беларуску.

Бывала ,
марудны прычэпнік
Узрушыць няўпэўненым фактам :
— Вы можа прыгляньцеся лепей.
Ці часам шыбуе не Танк там ?

Не ён быў, а нейкі дзівосны
Зямляк нарачанскага В о л а т а.
Шапталі ўзвышана сосны
Пра камень ,жалеза і золата.

## ПАД ВОСЕНЬ

Люблю я пад восень лесам,
Люблю я пад восень полем,
Калі яшчэ бабіна лета
Чаруе, уздыхае, сваволіць.

Паглянеш: не ўсё яшчэ спета
Ні полем, ні лугам, ні борам.
А што гаврыць пра кабету,
Калі ёй паўкаплі за сорак.

Каліну хістае ад ягад,
Антонаўка просіцца ў рукі.
Люблю я пад восень з развагай
Паслухаць уласныя думкі.










# Станіслаў Суднік

**ДЗЯДУЛЯ**

"Некаторыя старыя адмовіліся пакідаць родныя мясціны заражаныя ў выніку Чарнобыльскай катастрофы"
/ З газет /

Дзень сышоў. Засвяціліся зоры.
Росы ўпалі на зелень травы.
Лес у новым барвяным уборы
Скалынуўся ад крыку савы.

І лясун, дрыжучы з халаднечы,
Стаў нацягваць паддзёўку з кары,
А ў хацінцы ўжо дровы пры печы
Зачакаліся тое пары,

Як дзядуля нядужай рукою
Трохі засланку ссуне на бок,
Жар папраўіць старой качаргою,
Абапрэцца рукой на кіёк,







І падкіне паленца, другое,
І агеньчык заскача па іх,
І павее такой цеплынёю,
Падабрэюць аж лікі святых.

Прапаліўшы так крышачку ў печы
Дзедка юшку засуне, затым
Ён прытуліць старэчыя плечы
Да ласкавых пяшчотных цаглін.

І павольна, павольна, паціху
Павядзе ён гаворку сваю
Пра жыццё і няўмольнае ліха,
Што напала на гэту зямлю...

... Тут было так прыгожа і міла,
Смех дзіцячы будзіў цішыню,
І зямелька спрадвеку карміла
Можа ў пяць пакаленняў радню.

Тут быў хлеб і, як кажуць, да хлеба,
Тут і чарку пускалі кругом,
Тут зважалі на лес і на неба,
Тут дабро нажывалі гарбом.

Тут жылі і хацелі да скону
Тут бы жыць, працаваць і кахаць,
Тут на гэтай зямлі абароны
Ім не раз давялося ўставаць.

Ды раптоўна, адкуль што ўзялося ?
Захварэлі і лес, і вада,
Захварэла на полі калоссе,
Грыб з'ясі, і ад тога бяда.





Кажа недзе ўзарвалася нешта,
Кажа ўпаў тут нягэдыкі дождж,
Кажа ўсё тут прапала да рэшты,
Кажа будзе тут вечная ноч.

Ад дажджу і ад гэтага ліха
Усіх павезлі кудысьці за свет,
Ну а ён вось застаўся і ціха
Сам сабе тут жыве божы дзед.

Што яму ? Ён нажыўся без меры
І без меры намучыўся ён,
Ён заўсёды ў найлепшае верыў,
Ды не многа такіх згадваў дзён...

... Ён кабылцы сваёй, што ў калгасе
Ўжо з паўгода агульнай была,
Сечку трохі мукою прыкрасіў,
Ну а Маня аб тым данясла.

Пяць гадкоў ён гадзіна ў гадзіну
Ведаў толькі рыдлёўку і лом,
А вярнуўся ў старую хаціну
І зажыў неўпрыкмет за сялом.

Зноўку шчасце не доўга трывала,
Немец вайну пачаў , і пайшло —
Накаціла фашыстаў навала
І спалілі аднойчы сяло.

Ён уцёк, па балотах хаваўся,
Нейк раз партызан напаткаў,
Пры атрадзе тады і застаўся,
Як работу рабіў — ваяваў.





Па вайне будаваўся і хату
Зноў паставіў вось тут ля сяла,
Не меў часу хадзіць да дзяўчатаў,
Да яго раз Алена прыйшла.

Ажаніўся. І дзеці, і ўнукі
Параслі, пачалі самі жыць,
І каравыя , чорныя рукі
Мелі поўнае права спачыць.

Ну, але, як ты сядзеш на покуць,
Трохі ёсць яшчэ сіла ў руках,
Хоць баліць куляй мечаны локаць,
Ды мо прыцемак нейкі ў вачах ...

... Ну а зараз ? Адзін, як зязюля,
Трэцца хіба аблезлы шчэ кот,
Сам з сабою гаворыць дзядуля
Люльку з вечара ўціснуўшы ў рот.

На палатках у цемры стаіўся
Маладзенькі зусім дамавы,
Бо стары па вясне атруціўся
З радыяцыяй з'еўшы травы.

Дамавы падслухоўвае дзедку,
Непрыкметненька вучыцца жыць,
Бо адзін ён застаўся, хто ўлетку
Будзе гэту зямельку лячыць.









# Святлана Ціщук.

## Мы сустрэліся

Чыгуначны вакзал. Шматгалоссе вакол.
Ля мяне ты з'явіўся, бы з неба анёл.
І сустрэліся вочы твае і мае —
Шэры колер з блакітам у ранішнім сне.
Я з табою паеду ў тваю далячынь !
"У адным хай напрамку цягнік нас імчыць !" —
Ты казаў. І я слухала словаў тых спеў,
Што дзявочае сэрцайка ўзрушыць паспеў.
Голас мой у адказ сухім лісцем не ўпаў.
"Няўжо нам па дарозе? Я птушку спаймаў!
Не хачу выпускаць я яе з даланёў..." —
Тваіх словаў салодкасць я ўсмоктвала ў кроў.
Не згубіўся твой голас, у тлуме не знік:
Паміж зорак бліскучых відзён маладзік.
І дзяўчына заўважыць, пачуе яго
Для сябе для адной прывітаннем Багоў.
І я чула, я бачыла. Разам з табой
Мы былі пад вясёлкавай яркай дугой.
Мы паехалі разам. Павёз нас цягнік
Не па рэйках — па небу ў каханейка дні.







**Прыемна займець сяброўку**

Цячэ небакрайны блакіт
З вачэй маёй лепшай сяброўкі.
Нягрымны, нязмрочны, нязолкі —
Ён чысты, жывы, трапяткі.

У добрым блакіце вачэй
Не б'юцца гвалтоўныя хвалі,
Што зайздрасцю лезуць і джаляць
У тонкую душу барздэжэй.

З блакіту пагляду цякуць:
Цяпло, дабрыня ў маё сэрца...
Прыемна адчуць міласэрнасць —
Сяброўку займець на вяку.

**Мы каталіся ў лодцы.**

З табой мы каталіся ў лодцы,
Лагодзіў нас сонечны дождж,
Ляжаў перад намі ў нямоцтве,
У бліках задумлены Сож.
Ты штосьці выказваў мне палка.
Я слухала словы твае
Была я маўклівай русалкай:
Хавала пачуцці свае.
Я голас кахання трымала
У сэрцы, бы ў лейцах — каня.
Не чуў ты яго. Сожа хвалі
Заўважылі пульс пачуцця.
На лодцы плылі мы з табою.
Табе Сож падказку даваў,
Каб ты у маўчанні глыбокім
Пачуцці мае прачытаў.



# На Бацькаўшчыне

Словы **Ніла Гілевіча** Музыка **Святланы Мельнікавай**

Andante

Дзень добры, ста-рон-ка ма-я да-ра-га - я -- зя-лё ны, а-

зёр-ны, прас-тор-ны,пры-вет-лі-вы край! Зноў з род-на-га

ўзгор - ка ця-бе а-зі - ра - ю, а сэр-ца так

б'ец - ца --хоць птуш-кай у неба пус - кай!.. Зноў з род-на-га

ўзгор - ка зноў з ўзгор-ка ця-бе а-зі-ра - ю, а сэр-ца так

б'ец - ца -- хоць птуш-кай у неба пус - кай!





**Ніл Гілевіч**

## На Бацькаўшчыне

Дзень добры,
Старонка мая дарагая —
Зялёны, азёрны, прасторны,
прыветлівы край!
Зноў з роднага ўзгорка
Цябе азіраю,
А сэрца так б'ецца —
хоць птушкай ў неба пускай!
Зноў з роднага ўзгорка,
Зноў з ўзгорка цябе азіраю,
А сэрца так б'ецца —
хоць птушкай у неба пускай.

Тут першую песню
Мне спела матуля,
Ледзь вочы прымружу —
і свеціць мне ўсмешка яе.
Тут мне зваражыла,
Вяшчуння — зязюля,
Што буду я вечна
вяртацца на ўлонні твае.
Тут мне зваражыла,
Тут мне зваражыла зязюля,
Што буду я вечна
вяртацца на ўлонні твае.

Павек не забуду
Ні песень, ні хлеба,
З якім ты і ласку
і сілу сваю мне дала.
І ўсё, што для шчасця
На свеце мне трэба —
Каб доля твая
незахмарана-светлай была.
І ўсё, што для шчасця мне трэба —
Каб доля твая
незамружана-светлай была.




## Нашы аўтары

Віктар Бачароў.

Нарадзіўся ў 1950 годзе ў горадзе Краснаярску. Скончыў Філалагічны факультэт Гарадзенскага педінстытута імя Янкі Купалы. Працуе ў Лідзе дырэктарам сярэдняй школы. Аўтар зборніка вершаў "Разговор".

Уладзімір Васько.

Нарадзіўся ў вёсцы Ліпічанка Шчучынскага раёна. Скончыў Гарадзенскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя Янкі Купалы. Працаваў дырэктарам сярэдняй школы на Дзятлаўшчыне, у рэдакцыі Дзятлаўскай раённай газеты "Перамога". Зараз намеснік рэдактара "Лідскай газеты". Аўтар кніг паэзіі "Прасветленнасць" і "На схілах берагоў". Друкаваўся у калектыўных зборніках "Дзень паэзіі", "Краю мой Нёман", часопісах Беларусі.

Іван Гушчынскі.

Родам з вёскі Парэчча Лідскага раёна. Скончыў Гарадзенскі педагагічны інстытут імя Янкі Купалы. Жыве і працуе ў Лідзе. Друкуецца з 1974 года.

Міхась Ёрш.

Нарадзіўся у 1955 годзе на Слонімшчыне. Выпускнік Менскага інстытута культуры. Працуе загадчыкам аддзела культуры Лідскага гарвыканкама.

Юры Карэйва.

Нарадзіўся ў 1961 годзе ў Лідзе. Выпускнік Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Жыве ў Лідзе. Студэнт Сучаснага Гуманітарнага Універсітэта. Друкаваўся ў зборніках паэзіі "Шлях" і "Кола", а таксама, ў перыядычным друку.

Вера Ляцецкая.

Нарадзілася на Гарадзеншчыне. Скончыла Менскі педінстытут імя Горкага. Працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Жыве ў Лідзе. На пенсіі.

Пётр Макарэвіч.

Нарадзіўся у 1938 годзе на Меншчыне. Скончыў Менскі педінстытут імя Горкага. 25 гадоў адпрацаваў у рэдакцыі "Лідскай газеты". Зараз загадчык сельгасаддзела рэдакцыі. Друкуецца з 1962 года.

Марына Масла.

Нарадзілася у вёсцы Гуруны на Лідчыне. Скончыла Гарадзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы. Жыве ў Лідзе. Працуе выхавацелем у дзіцячым садку.







Міхась Мельнік.

Нарадзіўся на Магілёўшчыне. Скончыў філфак Гарадзенскага педінстытута імя Янкі Купалы. Працуе выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Лідскім педвучылішчы. Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь. Аўтар зборніка вершаў "Скрыжаванне".

Леапольд Пырскі.

Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Юравічы Гарадзенскага раёна Вучыўся на факультэце журналістыкі Свярдлоўскага універсітэта, але скончыў юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працуе адвакатам. Жыве ў горадзе Ліда.

Лілея Сазанавец.

Нарадзілася 10 чэрвеня 1963 года ў вёсцы Лукашына Іўеўскага раёна Васьмігодку закончыла у Лукашына, потым вучылася ў Лідзкім індустрыяльным тэхнікуме, закончыла з чырвоным дыпломам, працавала на "Оптыцы". Зараз працуе на ААТ "Лакафарба".

Смарагд Сліўко.

Нарадзіўся у 1931 годзе ў Яраслаўлі.Закончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гарадзенскага педінстытута імя Янкі Купалы. Працаваў у школах Ліды. Друкуецца з 1970 года.

Алесь Стадуб. Родам з Меншчыны. Дзевяць гадоў кіраваў мастацкімі харавымі калектывамі. Доўгі час працаваў у сродках масавай інфармацыі. Зараз — у сістэме адукацыі. Жыве ў г. Лідзе. Даўно выступае ў абласным і рэспубліканскім друку

Станіслаў Суднік. Нарадзіўся 21 верасня 1954 года ў вёсцы Сейлавічы Нясвіжскага раёна Менскай вобласці. Скончыў Менскае вышэйшае зенітнае ракетнае вучылішча СПА краіны і Цвярскую камандную акадэмію імя Жукава. Падпалкоўнік запасу Жыве ў Лідзе. Працуе ў перыядычным друку. Рэдактар газеты "Наша слова". Друкаваўся ў "Полымі", "Маладосці" ды іншых выданнях.

Святлана Цішук. Нарадзілася у 1938 годзе ў Гомелі. Скончыла Гарадзенскі фізкультурны тэхнікум і Гарадзенскі педінстытут імя Янкі Купалы. Жыве і працуе ў Лідзе. Друкуецца з 1979 года.




ЗМЕСТ






Ад лідскіх мурбў







*Алесь Судар. Ля замка Гедыміна. Алей*




*Аддрукован на правах унутранай дакументацыі*